# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года • № 28 (757) • 22 ліпеня 1994 г. • Цана 60 руб.

## ДЗЕЛЯ ЎШАНАВАННЯ НОВЫХ ЧЛЕНАЎ АКАДЭМІІ

Ліпеньскае пасяджэнне прэзідыума АНБ пачалося з урачыстага акта — уручэння атэстатаў і пасведчанняў членам Акадэміі навук, абраным на апошніх выбарах: акадэмікам АНБ Я. М. Бабосаву, І. Дз. Валатоўскаму, П. А. Віцязю, В. М. Гурыну, М. А. Ізобаву, В. А. Каваленку, Б. А. Калавандзіну, С. В. Коневу, А. В. Мацвееву, А. І. Падлужнаму, А. А. Стральчонку, А. Ф. Чарняўскаму, членам-карэспандэнтам Ф. В. Аляшкевічу, А. М. Булыку, У. В. Гніламёдаву, Л. І. Гурскаму, Г. Дз. Карпенку, М. П. Круцько, П. Дз. Кухарчыку, Ф. А. Лахвічу, А. І. Лесніковічу, У. Ф. Логінаву, Г. Р. Маньшыну, А. А. Махначу, М. У. Паўлюкевічу, М. М. Пікуліку, М. Ф. Піліпенку, К. М. Салаўёву, В. С. Танаеву, Э. І. Тачыцкаму, В. Г. Ціхіню, Б. П. Якушаву.

Атэстаты і пасведчанні новым акадэмікам і членам-карэспандэнтам уручыў прэзідэнт АНБ акадэмік Л. М. Сушчэня. У віншавальным слове ён сказаў:

— Беларуская навуковая эліта атрымала сур'ёзнае папаўненне. Выбар быў вялікі, і сёння многія яшчэ маглі б быць разам з вамі. Але ўсё наперадзе, будуць жа новыя выбары.

Прэзідыум спадзяецца, што новаабраныя члены Акадэміі адыграюць важную ролю ва ўздыме прэстыжу беларускай акадэмічнай навукі. Акадэмія навук не можа перастаць існаваць, яна павінна быць, бо яна — неад'емная частка нашага жыцця.

Цяжкасці агромністыя. Але прэзідыум спрабуе пераадольваць іх. Урад Беларусі, нягледзячы на цяжкі груз праблем, уносіць свой уклад, перш за ўсе фінансаваннем.

Сёння ў нас з'явілася шмат цэнтрабежных тэндэнцый. Вучоныя павінны спрыяць таму, каб народ быў адзіны, мэтанакіраваны і дзейны.

Я вітаю ўсіх, хто афіцыйна названы членам Акадэміі навук Беларусі. Наша акадэмія мае славутую гісторыю. Спадзяюся, што новая навуковая кагорта будзе з гонарам несці званне вучоных — членаў Акадэміі. Жадаю дабрабыту вам і вашым сем'ям.

У кароткім паведамленні акадэмік А. І. Падлужны расказаў аб стане тэрміналагічнай работы ў рэспубліцы.

У абмеркаванні гэтай праблемы прынялі ўдзел акадэмік Л. М. Сушчэня і міністр адукацыі прафесар В. А. Гайсёнак. Прынята рашэнне сумесна з Міністэрствам адукацыі падрыхтаваць для Савета Міністраў праект пастановы аб стварэнні рэспубліканскай тэрміналагічнай службы, якая б на бюджэтнай аснове займалася ўпарадкаваннем навуковай тэрміналогіі і кантралявала прадукцыю рэспубліканскіх выдавецтваў з пункту гледжання адзінства навуковых тэрмінаў, якія ўжываюцца.

З прапановай аб змяненні назвы Інстытута гісторыі на Інстытут гісторыі і археалогіі, падтрыманай вучоным саветам інстытута і аддзяленнем гуманітарных навук, выступіў член-карэспандэнт АНБ М. П. Касцюк. У дыскусіі па гэтаму пытанню выступілі акадэмікі Л. М. Сушчэня, Г. М. Лыч, А. М. Ганчарэнка. Адным з довадаў пакінуць старую назву было тое, што вылучэнне археалогіі з гісторыі няслушна з лагічнага пункту погляду.

Прэзідыум АНБ падтрымаў хадайніцтва Аддзялення фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі АНБ зацвердзіўшы дырэктарам Інстытута прыкладной фізікі доктара тэхнічных навук П. П. Прахарэнку. Па прадстаўленні Аддзялення гуманітарных навук АНБ выконваючым абавязкі дырэктара Інстытута філасофіі і права прызначаны доктар філасофскіх навук А. С. Майхровіч.

У. ТРАЦЦЯКОЎ.

### ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?



У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АНБ, у лабараторыі машыннай графікі, праводзіцца ўдасканаленне створанага раней апаратна-праграмнага комплексу растравага вываду графічнай інфармацыі, які дазваляе ствараць чорна-белыя і каляровыя графічныя дакументы на паперы, а таксама тэхналагічныя арыгіналы і мікракопіі на спецыяльным плёнкавым носьбіце.

НА ЗДЫМКУ: праграміст І катэгорыі лабараторыі машыннай графікі Ларыса Аляксееўна ЮДАЕВА за адладкай сістэмы «МЕТАМІКРА», якая абслугоўвае мікрапрацэсары, у тым ліку і самы галоўны — працэсар вектарна-растравага пераўтварэння.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.
Фота М. БУДЧАНІНА

## БАНКІРЫ ДАПАМАГАЮЦЬ ДЗЕЦЯМ

13 ліпеня ў канферэнц-зале прэзідыума АНБ адбылася прэс-канферэнцыя, якую ладзілі Агенцтва Грэўцова сумесна з Рэспубліканскім дзіцячым онкагематалагічным цэнтрам.

Яна праводзілася з нагоды ахвяравання Комплекс-банкам аднаго мільярда беларускіх рублёў на патрэбы дзяцей, у якіх знайшлі онкагематалагічныя захворванні і якія лечацца ў РДОГЦ.

На пытанні журналістаў рэспубліканскай прэсы адказвалі: кіраўнік РДОГ цэнтра, кандыдат медыцынскіх навук В. В. Алейнікава, намеснік старшыні Дзяржкамчарнобыля, доктар біялагічных навук І. В. Ралевіч, старшыня праўлення Комплекс-банка А. Я. Кірнажыцкі, старшыня Мінскіх філіялаў Комплекс-банка Я. М. Краўцоў, І. А. Дунаеў, урач РДОГЦ. Вёў прэс-канферэнцыю У. Грэўцоў — дырэктар аднайменнага агенцтва.

Прэса заўсёды трымала ў полі зроку работу РДОГ Цэнтра.

У свой час, прыкладна ў 1989 годзе, аб бядотным становішчы РДОГЦ расказалі гледачам журналісты праграмы «Взгляд». Пасля Чарнобыльскай аварыі пад уздзеяннем павышанай дозы іанізіруючай радыяцыі значна павялічылася колькасць анкалагічных, гематалагічных, эндакрыналагічных хворых і ў першую чаргу пацярпелі дзеці. Аднак у той час дзяржава, а разам і медыкі былі не ў стане праводзіць лячэнне гэтых хворых на такім сучасным узроўні, як гэта робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце. Тады на заклік журналістаў дапамагчы Цэнтру адгукнуліся савецкія грамадзяне і ўстановы, стала паступаць дапамога з-за мяжы.

Адна швейцарская дабрачынная арганізацыя, якая дапамагае ахвярам аварый, пералічыла Цэнтру 1,5 мільёна швейцарскіх франкаў. Сродкі дабрадзеяў практычна дапамаглі станаўленню Рэспубліканскага Дзіцячага онкагематалагічнага цэнтра і пераўтварэнню яго ў медыцынскую ўстанову еўрапейскага ўзроўню. Пасля прымянення сучасных методык па лячэнню дзіцячага раку медыкі Цэнтра дасягнулі пэўных поспехаў. І калі ў 1989 годзе выжывалі толькі 12 працэнтаў дзяцей, хворых рознымі формамі раку, то сёння медыкі могуць вылечыць да 60 працэнтаў дзяцей. Аднак ахвяраванні замежных дабрадзеяў не бясконцыя. А дзяржава наша зараз перажывае эканамічны крызіс. Таму высокародная акцыя Комплекс-банка па адкрыццю асабовага рахунку РДОГЦ для закупкі медыкаментаў і абсталявання дапаможа вырataваць ад смерці многіх нашых маленькіх суайчыннікаў. Перш за ўсё сродкі Комплекс-банка пойдуць на закупку ста флаконаў прэпарата нейпагена. Гэта каштуе 20.370 ДМ.

Вольга Вітальеўна Алейнікава звярнулася да ўсіх, хто можа давесці праз сродкі масавай інфармацыі рахунак, па якому можна зрабіць ахвяраванні: № 909301 (для залічэння рублёвых сродкаў), № 099101 (для залічэння валютных сродкаў), код 734. Мінскае аддзяленне Комплекс-банка, прызначэнне плацяжу — дабрачынны ўзнос.

М. ГОГАЛЕВА.

### Банк ідэй і прапаноў

#### АЎТАТРОС БУКСІРОВАЧНЫ

Буксіроўка кожнага транспартнага бязрэйкавага сродка не пазбаўлена, па меншай меры, аднаго недахопу. Гутарка ідзе аб тых рыўках транспарту, які буксіруецца, пры зрушванні з месца і пры змене рэжымаў руху.

Калі ўнесці невялікае ўдасканаленне ў канструкцыю аўтатроса (або зрабіць змяненне ў буксіровачным круку самога аўтамабіля), то рыўкоў можна пазбегнуць. Пры гэтым удаецца пазбегнуць і іншай непажаданай з'явы — разгойдвання тросу, што стварае «торганні» аўтамабіля і пагрозу разрыву тросу.

#### ТРАЛЕІ, ЯКІЯ НЕ СПАДАЮЦЬ

Зрыў (спадзенне) троляў — токаздымальнікаў тралейбуса — пад час яго руху не такая ўжо рэдкая з'ява. Яна стварае пагрозу для пешаходаў, замаруджвае рух і перашкаджае іншым транспартным сродкам.

Можна прапанаваць невялікае ўдасканаленне кантактнай галоўкі троляў з тым, каб яе зрыў пры руху тралейбуса не адбываўся. Токаздымальная галоўка пры гэтым застаецца няжорстка звязанай з канкрэтным провадам і руху тралейбуса не перашкаджае.

Аўтар вынаходніцкіх прапаноў Вячаслаў МІЛКОЎСКІ.
(Мінск-24, вул. Асаналіева, 13/1, кв. 72).

## Сінергетыка — навука перспектыўная

У канцы чэрвеня ў Браславе, што на Віцебшчыне, прайшла II рэспубліканская школа-семінар «Нелінейныя дынамічныя сістэмы», якая была арганізавана БДУ і АНБ. У рабоце школы ўдзельнічалі фізікі і матэматыкі з розных устаноў рэспублікі, якія даследуюць нелінейныя дыферэнцыяльныя ўраўненні і фізічныя мадэлі, звязаныя з працэсамі самаарганізацыі. Цяпер шэраг пытанняў па данай тэматыцы адносяць да сінергетыкі — навукі, якая ўзнікла ў сярэдзіне 70-х гадоў з даследаванняў па фізіцы лазераў, макраскапічнай хімічнай кінетыцы і сацыялогіі.

Трэба адзначыць, што ў Савецкім Саюзе адразу ж пасля выдання вядомых работ Г. Хакена і нобелеўскага лаўрэата, ураджэнца Беларусі І. Р. Прыгожына, даследаванні па сінергетыцы развіваліся вельмі інтэнсіўна. Гэтаму надзвычай спрыялі навуковыя традыцыі ў фізіцы і матэматыцы, якія былі звязаны з імёнамі Я. Б. Зельдовіча і А. М. Калмагорава. Неаднаразова праводзіліся ўсесаюзныя і міжнародныя канферэнцыі, у якіх прымалі ўдзел і вучоныя з Акадэміі навук Беларусі.

Інтэграцыйныя працэсы ў сучаснай навуцы прывялі да разумення вялікай эўрыстычнай сілы сінергетыкі. Зараз у большасці развітых краін праводзяцца інтэнсіўныя даследаванні па сінергетыцы. Яе дасягненні выкарыстоўваюцца ў матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, экалогіі, інфарматыцы. Характэрнай асаблівасцю тэарэтычных даследаванняў у сінергетыцы з'яўляецца пабудова нелінейных матэматычных мадэляў, улік флуктуацыйных эфектаў, выкарыстанне як колькасных, так і якасных метадаў даследавання матэматычных мадэляў.

Магутныя метады матэматычнай фізікі апошнія паўтара стагоддзя развіваліся, галоўным чынам, для вырашэння задач, якія звязаны з апісаннем сістэм з малымі адхіленнямі ад раўнавагі. Для даследавання нелінейных, часта схаластычных задач сінэргетыкі актуальная праблема стварэння адпаведнага матэматычнага апарату. Як паказала работа школы, вялікія спадзяванні ўскладаюцца ў гэтай сувязі на выкарыстанне сучасных геаметрычных метадаў і метадаў функцыянальнага інтэгрыравання.

Трэба заўважыць, што ўразлівыя дасягненні сінергетыкі прывялі многіх філосафаў, якія займаюцца філасофскімі праблемамі прыродазнаўства, да ўсведамлення такога факта: на нашых вачах ідуць пэўныя змены навуковай парадзігмы, развітай яшчэ з часоў Арыстоцеля і звязанай з абсалютызацыяй магчымасці выдзялення малой падсістэмы з вялікай. Натуральна, асабліва актуальны гэтыя пытанні для грамадазнаўцаў. Спадзяемся, што ў будучыні кола ўдзельнікаў Браслаўскай школы пашырыцца і ў ёй прымуць удзел не толькі матэматыкі і прыродазнаўцы, але і грамадазнаўцы.

Спонсары семінара — Навукова-вытворчы цэнтр «Мігма» (г. Наваполацк, дырэктар — М. І. Бакевіч) і навукова-інвестыцыйная кампанія «ВОМА» (г. Мінск).

С. ФІСЕНКА,
доктар фізіка-матэматычных навук,
старшы навуковы супрацоўнік
ІЦМА АНБ.

ПОГЛЯД ПРАЗ ПАЎСТАГОДДЗЕ

# ЯГО МОГ НАПАТКАЦЬ ЛЁС УСІХ ТЫХ, ХТО ПАДПАДАЎ ПАД КЛЯЙМО «НАРОД-ЗДРАДНІК»

(Заканчэнне. Пачатак у № 27)

Па-першае, немцы не выконвалі сваіх абавязкаў па забеспячэнню створаных батальёнаў БКА зброяй, ваеннай амуніцыяй. Так, напрыклад, у Вілейскай акрузе на 6000 жаўнераў немцы далі 7 кулямётаў, 1200 старых савецкіх і італьянскіх вінтовак. Узнікалі цяжкасці і з патронамі.

Па-другое, у фарміраванні польскай Арміі Краёвай бачылі патэнцыяльнага ворага для Чырвонай Арміі, таму, каб не падрываць іх мабілізацыйныя магчымасці, актыўнай дзейнасці па стварэнню БКА ў зонах актыўнай дзейнасці польскай АК (Прыпяцкая, Лідская акругі, шэраг іншых раёнаў Заходняй Беларусі) не праводзілася. Ні пра якія нацыянальныя інтарэсы беларусаў ніхто і слухаць не хацеў. Аб гэтым добра сведчыць другі пункт загада Готберга ад 23 лютага 1944 года. Цытую: «Утварэнне БКА праводзіцца паступова, крок за крокам па ўсіх акругах Генеральнага Абшару Беларусі за выняткам акругі СС і Паліцэйфюрэра Прыпяці і акругі Ліда. Ва ўжо ўтвораных абаронных вёсках мабілізацыя не праводзілася. Далей выключаюцца ад мабілізацыі: у Менскай акрузе — раёны Узда і Івянец, у Вілейскай — раёны Валожын і Мядзель, у Глыбоцкай — Браслаў, у Слонімскай — Казлоўшчына, у Наваградскай — знаходзячаяся на захад ад Моўчадзі частка Дзятлаўскага раёна».

— *Што можна сказаць пра структуру і колькасны склад БКА?*

— У склад Беларускай краёвай абароны ўваходзіла 45 батальёнаў, з якіх 39 стралковых і 6 сапёрных. І падпарадкоўваліся яны немцам. Колькасць байцоў БКА перавышала 30 тысяч чалавек. Хроніка БЦР сведчыць, што пераважная большасць структур БКА знаходзілася толькі ў стадыі арганізацыйнай. У адпаведнасці з загадам Прэзідэнта БЦР шэфам Галоўнага кіраўніцтва БКА быў прызначаны маёр Франц Кушаль. Яго намеснікам — лейтэнант Віталь Мікула. Структурна батальён БКА складаўся з 4 рот, агульнай колькасцю каля 700 стралкоў і афіцэраў. Кожная рота налічвала 3 звязы, а звяз — 4 дружыны. Дружына, па сутнасці,— гэта аддзяленне ў нашых Узброенных Сілах. У яе ўваходзілі 10 стралкоў, якімі кіраваў падафіцэр.

— *Наколькі выніковай была дзейнасць Беларускай краёвай абароны?*

— Ацэньваючы дзейнасць БКА, трэба ўлічваць яе асабісты склад. Умоўна ён падзяляецца на тры групы. Першая — сапраўдныя калабаранты і здраднікі, другая — людзі, шчыра жадаючыя нацыянальнай незалежнасці і лепшай долі свайму народу, трэцяя — стралкі і афіцэры, прымусова мабілізаваныя ў БКА.

Некалькі слоў хочацца сказаць пра тых, каго мы аднеслі да другой групы. Па сваёй колькасці яна — самая невялікая. Дык вось, нямала яе прадстаўнікоў было вынішчана немцамі, якія пільна сачылі за ўсім, што адбывалася ў БКА. Паказальны ў гэтым плане лёс старшага лейтэнанта Мазура, які за незалежныя погляды і патрыятычныя выказванні быў замардаваны ў Мінскім СД. Асабістаму складу батальёна было дадзена тлумачэнне, нібыта ён накіраваны ў Германію ў ваенную школу для паглыблення ведаў і загінуў пад час англійскай бамбардзіроўкі.

Увесь асабісты склад БКА разумеў, што немцы вайну праўгралі. Пра гэта іх добра інфармаваў падпольны савецкі друк. Толькі супраць мабілізацыі ў БКА было накіравана 200 спецвыпускаў лістовак з тыражом у сотні тысяч экземпляраў, не ўлічваючы шматлікіх матэрыялаў у перыядычным падпольным друку. Таму, калі пачаўся адыход германскіх войск з Беларусі, немцы лёсам БКА не цікавіліся. Яе асабісты склад, які ў большасці не скампраментаваў сябе супрацоўніцтвам з ворагам, павольна разышоўся па дамах.

На Захад з немцамі адыйшло наогул каля 10 тысяч беларусаў. Галоўным чынам, з акрэсленых мной першай і другой груп складу БКА, а таксама прадстаўнікоў інстытутаў самакіравання часоў акупацыі. Калі ў Нямеччыне пачалі ствараць з асабістага складу БКА брыгаду СС «Беларусь», у яе ўступіла 1094 чалавекі. З іх толькі палова была ў складзе БКА. Такім чынам, няма падстаў лічыць БКА праяўленнем нацыянальна-патрыятычнага руху. БКА — штучна створаная германскімі акупацыйнымі ўладамі на Беларусі з'ява.

З В. І. ЕРМАЛОВІЧАМ гутарыў Алесь БІЦАРУК.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ

# І для навукоўцаў, і для школьнікаў

Трымаю ў руках новую кнігу, якая толькі-толькі паступіла ў продаж — «Нарысы гісторыі Беларусі», Мінск, «Беларусь», 1994. Частка І». Вось уступны артыкул — «Да чытача».

...«Кожны народ прагне ведаць і асэнсоўваць сваё мінулае, якое з'яўляецца неад'емнай часткай яго нацыянальнай свядомасці. Адлюстраванне мінуўшчыны ў гістарычных працах павінна быць адэкватным таму, што мела месца ў жыцці, ва ўсёй яго разнастайнасці і супярэчлівасці. На жаль, у гістарыяграфіі Беларусі шмат «белых плямаў» і тэндэнцыйных, не абгрунтаваных меркаванняў і сцвярджэнняў... Раней, нягледзячы на наяўнасць даволі шматлікіх даследаванняў, гэта не ўдавалася зрабіць па шмат якіх аспектах, таму што гістарычная навука Беларусі ў дакастрычніцкі і ў савецкі час ў асноўным знаходзілася ў падначаленні афіцыйных улад... Абарона іх інтарэсаў была першай задачай афіцыйнай гістарыяграфіі... Таму адлюстраванне гісторыі беларускага народа было аднабаковым... Гэта нанесла вялікія духоўныя страты беларусам як нацыі, вяло да зніжэння іх прэстыжу сярод славянскіх і іншых народаў.

Толькі з другой паловы 80-х гадоў пры шматлікіх недахопах і крайнасцях радыкальных пераўтварэнняў для гісторыкаў і іншых прадстаўнікоў грамадазнаўства з'явілася магчымасць стаць на шлях больш аб'ектыўнага адлюстравання працэсаў, якія адбываліся ў мінулым... Задача прафесійных гісторыкаў — даць навуковае асэнсаванне з'яў, падзей, працэсаў, пагадзіцца з тым, што правільна, выправіць тое, што напісана на недастатковай дакументальнай аснове ці зусім з яе адсутнасцю. Пры гэтым нельга ні падфарбоўваць нашу гісторыю, як гэта нярэдка рабілася раней, ні даваць яе толькі ў негатыўным святле, што часамі бывае цяпер. ...Толькі аб'ектыўны падыход можа вытрымаць суровае выпрабаванне, якое ўчыняе гістарычным даследаванням час».

Даруйце вялікую цытату, але лепш не акрэсліш тыя мэты і задачы якія стаялі перад аўтарскім калектывам супрацоўнікаў Інстытута гісторыі. Неабходна адзначыць, што матэрыял пададзены менавіта з пункту гледжання жыхара Беларусі. І ў гэтым, напэўна, каштоўнасць і навізна выдання. Таму што гісторыя нашае Бацькаўшчыны і дагэтуль па-рознаму трактуецца ці то ў Маскве, ці то ў Кіеве, ці то ў Вільнюсе, ці то ў Варшаве.

Выпуск «Нарысаў» стаў з'явай у грамадскім жыцці і адначасова пэўнай вяхой у жыцці Інстытута гісторыі, дзе з гэтай нагоды адбылася прэзентацыя, прычым упершыню за ўсе гады яго існавання. Прайшла ўрачыстасць вельмі цікава, не заарганізавана і жыва. Павіншаваў прысутных дырэктар інстытута, ён жа галоўны рэдактар «Нарысаў», член-карэспандэнт АНБ М. П. Касцюк. Аб тым, як ствaралася першая частка «Нарысаў», якія цяжкасці перашкаджалі таму, каб яна выйшла раней, і ў якім стане праца над II часткай, расказалі некаторыя з аўтараў: дактары гістарычных навук Г. В. Штыхаў, М. В. Біч, кандыдаты гістарычных навук П. А. Лойка, М. Ф. Спірыдонаў. Калі раней навукоўцы сутыкаліся з цяжкасцямі «ідэалагічнага» плану, то зараз напаткалі цяжкасці тэхнічныя (з паперай, фінансаваннем і г. д.). Менавіта таму друкаванне кнігі затрымалася амаль на два гады. Слова падзякі аўтарам сказаў «першы чытач» — рэдактар з выдавецтва «Беларусь» Э. Н. Гнеўка, які разам з імі прымаў удзел у нараджэнні новай кнігі.

Прагучала віншаванне з боку Міністэрства адукацыі РБ, якое, дарэчы, рэкамендавала «Нарысы» як вучэбны дапаможнік для студэнтаў вну.

Часам урачыстасць нагадвала пасяджэнне вучонага савета: былі і спрэчкі (на жаль, не толькі навуковыя, не толькі канцэптуальныя), была і крытыка, і ўдакладненні.

Так. Здаецца, выданне не пазбаўлена недахопаў, пэўных недакладнасцей. Але ж як гэтага пазбегнуць, калі стварэнне падручніка — заўсёды праца жывая? Нягледзячы на ўсе ягоныя хібы, не было ў нас яшчэ такога дапаможніка, які з цікавасцю ўспрымаўся б і навукоўцамі, і настаўнікамі, і рабочымі, і нават малодшымі школьнікамі (гэта сцвярджаю з асабістага вопыту). Выданне прыгожа ілюстравана, добра, што ў ім ёсць карты. Яшчэ вельмі істотна, што яно насычана цытатамі з першакрыніц, архіўных дакументаў.

Будзем чакаць выхаду другой часткі «Нарысаў гісторыі Беларусі», якая выйдзе прыкладна ў канцы гэтага года. А наперадзе ў калектыва — работа над сямітомнай «Гісторыяй Беларусі».

М. АРНОЛЬДАВА.

# Упершыню — без афіцыйных цырымоній

Сэр Бернард Інам шмат разоў бываў у былым Саюзе, але яго цяперашні візіт адрозніваўся ад усіх папярэдніх тым, што не быў скаваны рамкамі афіцыйнага пратаколу і цэрэманіялу, а таму аказаўся самым незвычайным і самым захапляючым. Адзінаццаць гадоў сэр Бернард кіраваў прэс-службай прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр. Менавіта ў гэтай якасці ён набыў шырокую вядомасць і высокі аўтарытэт у палітычных колах, зусім не будучы палітыкам.

45 гадоў сэр Б. Інам сачыў за палітычнай барацьбой моцных гэтага свету. Зараз, калі пасля змены ўрада Вялікабрытаніі, ён пакінуў цяжкія абавязкі прэс-сакратара «жалезнай ледзі», з яго меркаваннямі па-ранейшаму лічацца, паколькі ён карыстаецца ў сваёй краіне рэпутацыяй чалавека мудрага і сумленнага.

У апошнія 20 гадоў сэр Бернард займаўся ў Вялікабрытаніі арганізацыяй грамадскай падтрымкі на карысць атамных электрастанцый. Калі ён аб'явіў аб сваім намеры паехаць у Чарнобыль паглядзець сваімі вачыма на вынікі аварыі, многія суайчыннікі палічылі яго, мякка кажучы, не зусім здаровым — настолькі вялікія страхі і сёння, амаль 10 гадоў пасля аварыі. У Дубну Б. Інам прыехаў адразу з Чарнобыля, дзе быў разам з незалежным кансультантам па экалагічных аспектах атамнай энергетыкі прафесарам Эрыкам Войсам.

Выступаючы ў Доме вучоных, сэр Бернард коратка выклаў свае адносіны да адной з самых актуальных праблем нашага часу. Яшчэ да таго, як ён стаў памочнікам Маргарэт Тэтчэр, яму давялося працаваць у Дэпартаменце энергіі Вялікабрытаніі, таму яго веды і ў гэтай галіне вельмі абшырныя. Ніводная іншая галіна, лічыць ён, не падвяргаецца ў нашы дні такім нападкам грамадскасці і прэсы, як атамная энергетыка. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Аднак, па меркаванню Б. Інама, яе вынікі вельмі перабольшваюцца, іх вывучэнне вядзецца даволі вяла. Ніхто не хоча, каб Чарнобыль паўтарыўся, таму неабходны глыбокія і ўсебаковыя даследаванні, навукова абгрунтаваныя звесткі, каб аказваць максімальна магчымую дапамогу тым, хто сапраўды пакутуе ад паследкаў аварыі, каб пэўным чынам займацца пытаннямі павышэння надзейнасці і бяспекай рэактараў. Трэба дапамагаць людзям перадольваць страх перад атамнай энергетыкай, паколькі і сёння, і ў будучым без яе не абыйсціся. Брытанскі ўрад падтрымлівае яе развіццё. Вярнуўшыся дадому, сэр Б. Інам мае намер прыкласці яшчэ больш намаганняў для распаўсюджвання інфармацыі, якую ён атрымаў, пабываўшы ў Чарнобылі і меўшы зносіны са спецыялістамі.

У Дубну сэр Бернард прыехаў па запрашэнню дырэктара Лабараторыі ядзерных рэакцый прафесара Ю. Ц. Аганесяна. Даследаванні ў галіне ядзернай фізікі — таксама ў сферы ўвагі англійскага журналіста і грамадскага дзеяча. Ад узроўню развіцця гэтай навукі, гаворыць ён, у немалой ступені залежаць умовы жыцця людзей, іх дабрабыт, здароўе. І, канешне, не выпадкова, што суправаджаючай асобай сэра Бернарда ў паездцы ў Дубну стаў член Каралеўскага хімічнага таварыства прафесар Эрык Войс. Гэта яму і яго калегу з Хэруэлскай лабараторыі прафесару Д. Ньютану два гады назад былі зроблены ін'екцыі плутонія-237. Англійскія вучоныя вырашылі паставіць дослед на саміх сабе, каб устанавіць, у якіх органах канцэнтруецца плутоній, якім чынам яго можна «вымываць» з арганізму, высветліць іншыя пытанні.

Гэтыя эксперыменты атрымалі вельмі шырокі рэзананс у прэсе Вялікабрытаніі, якая не скупілася на эпітэты, называючы даследчыкаў доследнымі жывёламі, а плутоній, вядома, смертаносным. Аб тым, што сапраўды небяспечны эксперымент закончыўся ўдала, сведчыць сам прафесар Войс, незвычайна жвавы і энергічны для сваіх гадоў. Сааўтарамі ўнікальнага эксперыменту па вывучэнню ўздзеяння радыяцыі на чалавека можна па праву лічыць спецыялістаў Лабараторыі ядзерных рэакцый — радыёхімікаў, фізікаў, паскаральшчыкаў. Дзякуючы іх віртуознаму майстэрству, прафесіяналізму быў атрыманы прэпарат такой звышвысокай чысціні, якой не маглі дасягнуць ні ў адной іншай лабараторыі свету. Супрацоўніцтва будзе прадоўжана, плануюцца новыя доследы з радыёактыўнымі рэчывамі, у групу дабраахвотнікаў уключаны і жанчыны. Больш таго — пачата новая праграма па вывучэнню ў арганізме чалавека метабалізма алюмінія. Першая партыя прэпарата, атрыманая ў ЛЯР, адпраўлена ў Хэруэл.

(«Дубна»)

## СА ЎСЯГО СВЕТУ

### ЕЖА, ЯКОЙ АДДАЮЦЬ ПЕРАВАГУ КУРЫЛЬШЧЫКІ

*У Англіі, адзначае спецыяліст па харчаванню Бары Маргетс (Саутгемптонскі універсітэт) курыльшчыкі ўжываюць больш, чым тыя, хто не курыць, прадуктаў харчавання, якія прайшлі тэхналагічную апрацоўку, цукру, сметанковага масла, і менш валакністай ежы, поліненасычаных тлушчаў, бялкоў, садавіны і гародніны.*

*Ежа курыльшчыка ўтрымлівае, у прыватнасці, менш вітаміна С і караціна, якія з'яўляюцца антыакісляльнікамі, ахоўваючымі клеткі арганізму ад пашкоджання свабоднымі радыкаламі, якія ўтрымліваюцца ў вялікай колькасці ў тытунёвым дыме.*

*Такая нестаноўчая дыета курыльшчыкаў, відаць, паглыбляе шкоду, якая наносіцца арганізму курэннем.*

### ЯШЧЭ ДЗВЕ ПЛАНЕТЫ

Існаванне дзвюх планет у галактыцы Млечнага шляху пацвердзіў амерыканскі вучоны Аляксандр Уолжцан з універсітэта штата Пенсільванія. Як адзначае газета «Ньюсдей», «гэта першыя дзве планеты, якія вядомы за межамі Сонечнай сістэмы».

Упершыню астраном выказаў адпаведную гіпотэзу ў 1992 годзе, абгрунтоўваючы меркаванне на вывучэнні светлавых выпраменьванняў зоркі-пульсара высокай шчыльнасці, вакол якой рухаюцца гэтыя касмічныя целы. З тае пары Уолжцан правёў дэтальнае даследаванне гравітацыйных з'яў у гэтым раёне Млечнага шляху, якія і пацвердзілі яго версію.

Зоркі знаходзяцца на адлегласці прыкладна 1300 светлавых гадоў ад нашай планеты ў накірунку сузор'я Дзевы. Маса адной з планет складае 2,8 зямной, а другой — 3,4. Перыяд арбітальнага абарачэння першай вылічаецца 98,2 зямных сутак, а другой — 66,6 сутак.

# ПРЫРОДА І МЫ



## Экалагічны выпуск № 5

### У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ

## ПРАБЛЕМЫ РАДЫЕАДАПТАЦЫІ. ЦІ ІСНУЮЦЬ ЯНЫ?

Набытая павышаная ўстойлівасць арганізма да дзеяння фактараў знешняга асяроддзя атрымала назву экалагічнай, альбо фенатыпічнай, адаптацыі. Вялікая серыя даследаванняў, выкананых з канца саракавых гадоў да цяперашняга часу, дазваляе заключыць, што адаптацыя да павышанага радыяцыйнага фону, г. зн. радыёадаптацыя, уласціва чалавеку, жывёлам і раслінам.

Улічваючы тэмпы тэхнагеннага развіцця чалавецтва, у недалёкім будучым можна чакаць, што значная частка насельніцтва Зямлі будзе жыць у зонах з павышаным радыяцыйным фонам. Для Беларусі такі час ужо наступіў. Каля двух мільёнаў чалавек у нашай рэспубліцы жывуць пры павышаным фоне ядзернай радыяцыі з-за забруджвання тэрыторыі краіны радыёнуклідамі.

Фактычна, пачынаючы з 1986 года, у жыхароў раёнаў радыёактыўнага забруджвання ідзе працэс радыёадаптацыі. Для большасці людзей гэты працэс працякае без паталагічных зрухаў у стане здароўя. Такія зрухі могуць назірацца ў асоб з павышанай радыёадчувальнасцю. Гэтыя людзі складаюць ад паловы да пяці працэнтаў жыхароў. Выдзяленне іх у групы павышанай радыяцыйнай рызыкі для аказання спецыялізаванай прафілактычнай і лячэбнай дапамогі з'яўляецца важнейшай задачай медыцынскай службы ў раёнах радыёактыўнага забруджвання.

Асноўным паказчыкам радыёадаптацыі з'яўляецца паказчык індывідуальнай радыёадчувальнасці. Зніжэнне гэтага паказчыка сведчыць аб радыёадаптацыі, а павышэнне — аб радыёсенсабілізацыі, г. зн. павышэнні адчувальнасці да радыяцыі. Цяпер паказчык індывідуальнай радыёадчувальнасці чалавека вызначаецца з дапамогай траўматычных, складаных і дарага каштуючых метадаў. Яны прымяняюцца пры даследаваннях невялікіх выбарак людзей і не здатныя для масавых абследаванняў. Таму падтрыманне належнага ўзроўню здароўя людзей, якія жывуць у раёнах радыёактыўнага забруджвання, можа быць забяспечана толькі тады, калі будзе распрацаваны метад вызначэння індывідуальнай радыёадчувальнасці чалавека, які адпавядае патрабаванням масавых абследаванняў (экспрэс-метад).

З мэтай распрацоўкі экспрэс-метаду вызначэння індывідуальнай радыёадчувальнасці чалавека намі былі праведзены неабходныя даследаванні, атрыманы вынікі.

Індывідуальная радыёадчувальнасць чалавека карэліруе з рэактыўнасцю яго арганізму, якая вызначаецца ў змяненні тых альбо іншых функцый пад уздзеяннем іанізуючай радыяцыі ці іншых фактараў. У першым выпадку рэактыўнасць у адносінах да радыяцыі можа быць названа радыёрэактыўнасцю.

У якасці паказчыка радыёрэактыўнасці ў нашым даследаванні была выбрана дынаміка напругі знешняга электрычнага поля чалавека пры рэнтгендыягнастычных абследаваннях людзей. Гэта поле ў паветры паблізу цела чалавека мае напругу ад дзесяткаў да тысяч вольт/метр. Рознасць яго патэнцыялаў тхнічна проста і хутка (на працягу мінут) вызначаецца з дапамогай электраметрычнага вольтметра па распрацаванай намі методыцы.

Выкарыстоўваючы гэту методыку, даследавана дынаміка напругі знешняга электрычнага поля перадплечча пацыентаў Рэспубліканскага спецыялізаванага дыспансера НДІ радыяцыйнай медыцыны, якія пры медыцынскім абследаванні падвяргаліся рэнтгенаграфіі лёгкіх. Пры гэтым выяўлена, што паказчык дынамікі іх знешняга электрычнага поля (П) быў альбо ніжэйшы, альбо вышэйшы, альбо трапляў у зону кантрольных значэнняў. Замеры напругі поля рэгістраваліся праз некалькі мінут пасля апраменьвання, якое працягвалася каля секунды. Трэба адзначыць, што ліквідатары аварыі на ЧАЭС, як правіла, давалі павышэнне напругі поля на рэнтгендыягнастычнае апраменьванне. Змены напругі поля назіраліся як пры апраменьванні грудной клеткі, так і іншых частак цела.

Вызначаныя электрычныя рэакцыі ў людзей на рэнтгендыягнастычнае апраменьванне лёгкіх характарызавалі значнымі індывідуальнымі адрозненнямі велічыні паказчыка П (да 8 разоў). Гэта дапасуецца з данымі аб вялікіх (да 20 разоў) адрозненнямі ступені індывідуальнай радыёадчувальнасці людзей пры апраменьванні іх малымі дозамі ядзернай радыяцыі.

Такім чынам, вынікі даследаванняў сведчаць, што электрычная рэакцыя чалавека, якая вызначаецца па паказчыку дынамікі яго знешняга электрычнага поля пры рэнтгендыягнастычных апраменьваннях, можа служыць паказчыкам радыёрэактыўнасці яго арганізму. Гэты паказчык вызначаецца тэхнічна проста і хутка, што адпавядае патрабаванням, якія прад'яўляюцца да экспрэс-метада медыцынскага абследавання. Заключны этап гэтага даследавання будзе заключацца ў эксперыментальным пацверджанні ўстаноўленага для іншых паказчыкаў палажэння аб карэляцыі радыёрэактыўнасці і радыёадчувальнасці арганізма.

**Я. КУЛІН,**
**НДІ радыяцыйнай медыцыны.**

*ПЫТАННЕ РУБАМ*

# Больш цярпець нельга!

**Не так даўно мне, як спецыялісту, было даручана правесці дзве незалежныя экспертызы. У адным выпадку была неабходнасць вывучыць стан наваколля ў цэнтры Мінска, у другім — прааналізаваць вынікі медыка-біялагічнага даследавання жыхароў Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці, якое выканалі высокапрафесійныя вучоныя Ваенна-медыцынскай Акадэміі з Санкт-Пецярбурга.**

**Давялося пазнаёміцца з некаторымі пісьмовымі крыніцамі, такімі, як «Матэрыялы Міжнароднага банка развіцця», картамі радыёактыўнага даследавання глебаў Гомельшчыны і шэрагам іншых.**

**У выніку навуковага аналізу экалагічнай сітуацыі на Беларусі паўстае пытанне: як абараніць чалавека ад экацыду. Абвясціўшы Беларусь зонаю экалагічнага бедства, за прайшоўшыя 4 гады Вярхоўны Савет нічога не зрабіў, каб максімальна мінімізаваць хімічны і радыяцыйны бруд, які цалкам запаланіў нашыя палеткі. Вывучаючы генетыка-антрапалагічны стан сучаснага насельніцтва, мы сутыкнуліся амаль з новаю з'явай у прыродзе: адсутнічае нармальная сусінусоіда размеркавання людзей на шкале фізіялагічнай нормы і паталогіі. Колькасць хворых, асабліва сярод дзяцей і моладзі, сёння значна перабольшвае колькасць здаровых. Па даных Інстытута радыяцыйнай медыцыны, адбыўся значны рост паталогіі цяжарных жанчын.**

**Яшчэ да Чарнобыльскай катастрофы вучоным Украіны і Беларусі быў добра вядомы негатыўны ўплыў на здароўе такіх хімічных прэпаратаў, як ДДТ, свінец, гексахларан, ртуць, дэфаліянты, іншыя гербіцыды і цяжкія металы. Але ж пра гэта можна было гаварыць толькі на закрытых пасяджэннях навуковых канферэнцый, а друкавацца — у матэрыялах для службовага карыстання.**

Замоўчванне чарнобыльскай бяды ў час так званай галоснасці і перабудовы даказала няздольнасць уладных структур гаварыць народу праўду, раіцца з ім, разам шукаць выйсце. Вядома, лягчэй кіраваць недасведчанымі. Практыка падману і забароны на інфармацыю працягваецца. Спажывец і сёння не ведае чысціню харчовых прадуктаў, сертыфікацыя іх якасці адсутнічае.

Здароўе прыроды і здароўе людзей непадзельныя. У Рэспубліцы Беларусь трэба тэрмінова падрыхтаваць і выдаць «Белыя кнігі», прысвечаныя стану навакольнага асяроддзя і стану здароўя насельніцтва. Такая магчымасць, на нашу думку, ёсць у Акадэміі навук Беларусі. У свой час дырэктар Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі акадэмік І. І. Ліштван, у яго бытнасць на пасадзе віцэ-прэзідэнта, спрыяў утварэнню ў АНБ прадпрыемства па дыстанцыйнаму экалагічнаму маніторынгу «Экамір». Але з-за незразумелай для простых людзей канфрантацыі з Белгідраметам за пяцігадовае існаванне нават не пачата падрыхтоўка да выдання вынікаў іх працы.

Надыйшоў той час, калі экалагічная бяспека вось-вось абернецца вялікай бядою для ўсяго чалавецтва. Фактычна духоўная дэградацыя насельніцтва ўжо мае месца, не за ґарамі дэградацыя фізічная. Зараз мы жывём у эпоху карэннай, але, на жаль, не плённай, перабудовы біясферы. Сучасны чалавек, можна лічыць, добра разумее, што без здаровай экалогіі ніколі не будзе нармальнай эканомікі, немагчыма жыць і працаваць, аднаўляць патомства. Толькі ва ўмовах коэвалюцыі прыроды і грамадства магчыма іх сумеснае развіццё. Справа ў тым, што далёка не ўсе экалагічныя праблемы зводзяцца да барацьбы з забруджваннем навакольнага асяроддзя. Падобная канцэпцыя, з-за сваёй абмежаванасці, пачынае тармазіць стварэнне тэарэтычна абгрунтаванай глабальнай бяспекі. Толькі адкрыўшы фундаментальныя законы фарміравання і ўстойлівасці прыродных экасістэм, можна вырашыць сучасныя экалагічныя праблемы.

Пад антрапагенным уплывам разбураюцца прыродныя экасістэмы, катастрафічна скарачаюцца прыпасы пітной вады, мяняецца характар захворванняў, павялічваюцца спустошаныя плошчы, расце экалагічнае бежанства. У пераваге смяротнасці над нараджальнасцю таксама прысутнічае адмоўны ўплыў сучаснай экалагічнай сітуацыі. Дзе выйсце з такога складанага становішча? Хто абароніць чалавека?

А сітуацыя сапраўды катастрафічная. Толькі адзін прыклад з экалагічным станам у Мінску: ён з'яўляецца сёння зонаю экалагічнага бедства, а для вучоных — мадэллю для медыка-экалагічных даследаванняў. Амаль 3 гады таму Белгідрамет разам з Камітэтам па экалогіі ўтварылі малое прадпрыемства «Сфера», якое арганізавала камп'ютэрны маніторынг за станам паветранага басейна ў горадзе. Накоплены банк дадзеных дазваляе прасачыць сярэднямесячныя паказчыкі па аміяку, якія перавышаюць ГДК (гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі) у цэнтры сталіцы ў 1,5—2 разы, па фармальдэгіду — амаль у 1,5 разы, закісь азоту перавышае ГДК на 5—10 працэнтаў. Такія шкодныя кампаненты, як фенол і вокіслы серы хоць і не пераўзыходзяць ГДК, але штодзённа аказваюцца максімальнымі ў цэнтры Мінска. Хранічна высокія канцэнтрацыі лятучых арганічных злучэнняў садзейнічаюць росту рэспіраторных захворванняў, а фенол і бензол павялічваюць рызыку захворвання дзяцей лейкеміяй.

Спашлёмся на даныя дырэктара НДІ гематалогіі і пералівання крыві сп. Я. П. Іванова, які называе самыя высокія паказчыкі захворвання ракам крыві ў Мінску, Віцебскай і Магілёўскай абласцях, дзе самы высокі ўзровень хімічнага забруджвання. Але дасканалы маніторынг паветранага асяроддзя за апошні год не толькі не пашырыўся за межы Мінска на тэрыторыю вобласці, а потым і рэспублікі, але з-за недахопу дыягностыкумаў, камп'ютэраў, падрыхтаваных кадраў і належнага фінансавання ён (маніторынг) прыходзіць у заняпад.

З 1994 г. пачалося мэтавае фінансаванне маніторынгу адкрытых водных басейнаў. Па даных Міжнароднага банку развіцця, рака Свіслач аказваецца самай бруднай. Абагульнены паказчык забруджвання ў ёй па аміяку, фенолу, нітратах, нафтапрадуктах і патрэбнасці ў кіслародзе раўняецца 6—10 адзінкам, што дасягае максімальных велічынь. У Свіслач штогод пападае 17 тон цынку, 16 тон хрому, 13 тон нікелю, што складае каля паловы ад скідаў гэтых металаў ва ўсёй Беларусі. Па біялагічнаму аналізу (даныя санэпідслужбы) вада Свіслачы на выхадзе з Мінска вельмі брудная. Вядома таксама, што ўсе глебы горада ўтрымліваюць свінец у колькасцях ад 5 да 500 мг на кг, што вельмі небяспечна для разумовага развіцця дзяцей.

Па выніках медыка-экалагічнага абследавання дзяцей і падлеткаў сталіцы за 1993 г., у арганізме дзяцей выяўлена сярэдняе ўтрыманне свінца ад 0,016 да 0,025 мг/л, у кожнага дзесятага школьніка паказчыкі перавышаюць ГДК. Утрыманне ртуці вагаецца ад 0,019 да 0,026 мг/л, а колькасць дасягае 18—27 працэнтаў. Гэта ж вельмі высокатаксічныя рэчывы. У 70 працэнтаў даследаваных маюцца парушэнні імуннай сістэмы. І самае дзіўнае ў гэтым даследаванні тое, што паказчыкі здароўя амаль не адрозніваюцца паміж сабою ў дзяцей, якія жывуць у розных па экалагічнай рызыцы зонах горада.

Яшчэ адно клініка-біялагічнае даследаванне было выканана супрацоўнікамі Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Хойніцкім раёне. Прыняўшы ўдзел у навуковай экспертызе атрыманых матэрыялаў, сведчу: з абследаваных 17800 чалавек (палова жыхароў) 93 працэнты аказаліся хворымі, часцей за ўсё на эндакрынную і нярвовую сістэмы. На фоне значнага пагаршэння дэмаграфічнай сітуацыі, пачынаючы з 1986 года, павялічылася колькасць захворванняў на анкалагічныя пухліны шчытападобнай залозы, лімфоідных органаў, легкіх, крыві. Вельмі хвалююць значныя нейрафункцыянальныя і псіха-эмацыянальныя недамаганні, якія ў стане значна ўзмацніць патагенез любой хваробы. Неўратызацыю насельніцтва патрэбна разглядаць у якасці дадатковага патагеннага фактару, які на фоне авітаміноза і элементарнага недахопу ежы можа прывесці да незваротных марфалагічных змен.

Мы лічым, што аварыя на ЧАЭС з'явілася той кропляй, якая перапоўніла чашу экалагічнага напружання. Магчымасці нармальнага біялагічнага існавання чалавека ў гармоніі з навакольным прыродным асяроддзем аказаліся ў значнай ступені страчанымі. У асаблівасці пакутуе эвалюцыйна скаардынаваная адаптыўнасць дзяцей.

Прыкладаў можна прыводзіць шмат.

Магчыма, мая парада прагучыць парадаксальна, але я выкажу яе: экалогію як навуку і сацыяльную з'яву неабходна як мага хутчэй і як мага болей палітызаваць. Толькі такім чынам можна будзе змяніць прыродакарыстальную свядомасць сучаснага чалавека. І, калі хочаце, праз гэта вярнуць яму страчаную прыродную духоўнасць.

Пакуль што скадаецца ўражанне, што грамадства пачало разумець пагубнасць экацыду, але яно не ў стане паўплываць на законы свайго негатыўнага развіцця. Яшчэ адна крамольная думка — больш за іншых ў фарміраванні экалагічнай бездухоўнасці вінаваты прыхільнікі атамнай энергетыкі і так званыя меліяратары.

Вось нашы канкрэтныя прапановы:

— прасіць Савет Міністраў даручыць Міністэрству прыродных рэсурсаў і НДЦ «Экалогія» пры ўдзеле АНБ кожны год рыхтаваць Дзяржаўны даклад аб стане навакольнага асяроддзя і «Белыя кнігі»;
— катэгарычна і цалкам зняць цяжар закрытасці з любых экалагічных з'яў;
— рэгулярна рыхтаваць навукова-практычны аналіз камп'ютэрных даных, існуючага экалагічнага маніторынгу, імгненна надаваць галоснасць наяўнай ці патэнцыяльнай экалагічнай небяспецы;
— спланаваць скарачэнне расходу электраэнергіі на чвэрць, адпаведна павінен знізіцца бруд наваколля;
— шукаць магчымасці інтэграцыі прыхільнікаў экалагічнай духоўнасці сярод рэлігійных канфесій, творчых саюзаў інтэлігенцыі;
— ініцыіраваць прыняцце новых законаў па экалагічнаму, выхаванню і экалагічнай адукацыі дзяцей і моладзі.

Калі гэтыя прапановы знойдуць узаемаразуменне і будуць выкананы, ёсць надзея, што ў экалогіі Беларусі адбудзецца зрух у станоўчы бок. Больш цярпець проста нельга!

**А. МІКУЛІЧ,**
**доктар біялагічных навук,**
**старшыня Беларускай экалагічнай партыі.**

● *ВАША ЗДАРОЎЕ*

# Паліклініцы патрэбен... «допінг»

Даўно не звярталася ў акадэмічную паліклініку, але ведаю, што калі б ні прыходзіла сюды, заўсёды заставалася задаволенай узроўнем абслугоўвання. І не толькі медыцынскага. Увесь персанал — ад галоўнага ўрача да медсясцёр, санітарак сустракаюць ветліва і дабразычліва. Утульнае, светлае памяшканне, прыгожы інтэр'ер, што таксама спрыяе добраму настрою. Але, бадай, самае галоўнае — да ўсіх «вузкіх» спецыялістаў можна трапіць амаль без чаргі, а гэта ў значнай ступені дапамагае зберагчы нервы, час, здароўе.

Але час ідзе, усё ў жыцці мяняецца. Нядаўна давялося наведаць паліклініку. І мяне здзівіла новая назва, якая цяпер напісана на шыльдзе пры ўваходзе: «Медыка-эксперыментальны сектар ІБАХ». «Няўжо на нас, пацыентах, цяпер будуць ставіць экспертыменты?» — жахліва падумала я і звярнулася з гэтым пытаннем да галоўнага ўрача паліклінікі Лідзіі Рыгораўны Краўчанкі. Яна зразумела, што гэта — жарт, але гутарка наша аб сённяшнім дні і перспектывах работы паліклінікі адбылася вельмі сур'ёзная.



— Да так званай «перабудовы» фінансавала паліклініку Міністэрства аховы здароўя БССР,— расказала галоўурач.— Потым прыкладна ў 1990-м годзе, калі ў яго самога склалася крытычнае становішча з фінансамі, паліклініка была пераведзена на бюджэт прэзідыума АНБ. Дарэчы, гэта здарылася не толькі з акадэмічнай паліклінікай. Усе медсанчасткі прадпрыемстваў і арганізацый горада былі аддадзены «на водкуп» тым установам, пры якіх яны былі створаны. І практычна ні ад аднаго медыцынскага падраздзялення, па маіх звестках, не адмовіліся.

Менавіта тады паліклініка была пераўтворана ў медыка-эксперыментальны сектар пры Інстытуце біяарганічнай хіміі, але захаваліся ўсе функцыі па арганізацыі медыцынскай дапамогі супрацоўнікам АНБ. Сектарам ІБАХ АНБ пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара інстытута доктара медыцынскіх навук Б. Б. Кузьміцкага ў 1993 годзе было праведзена даследаванне стану здароўя і імуннага статута супрацоўнікаў АНБ, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС і выязджалі з навуковай мэтай ў зону з завышанай шчыльнасцю радыёнукліднага забруджвання, а таксама тых, на каго паўплывалі іншыя фактары рызыкі. Пэўная колькасць нашых пацыентаў даследавана на скрытыя формы дыябету.

— *Хто зараз карыстаецца паслугамі паліклінікі?*

— Большасць нашых пацыентаў працуюць у інстытутах і ўстановах АНБ. Карыстаюцца дапамогай медыкаў ветэраны і інваліды Вялікай Айчыннай вайны з ліку былых супрацоўнікаў Акадэміі. А нядаўна было прынята рашэнне, што намі будуць абслугоўвацца пенсіянеры, якія пайшлі на пенсію менавіта з Акадэміі, хто адпрацаваў у ёй не менш за 10 гадоў, а зараз не працуе.

— *Якія асноўныя накірункі ў лячэбнай рабоце?*

— Асноўная частка нашых наведвальнікаў — працаздольныя людзі, таму галоўны наш клопат — арганізацыя і правядзенне прафілактычных аглядаў асоб, якія працуюць у шкодных умовах. Займаемся дыспансерызацыяй, прафілактычнай і лячэбна-аздараўленчай работай.

У паліклініцы працуе 18 урачоў па ўсіх вядучых спецыяльнасцях амбулаторна-паліклінічнай установы: тэрапеўты, хірург, неўрапатолаг, акуліст, ЛОР-урач, гінеколаг, стаматолаг, рэнтгенолаг, функцыянальны дыягност, фізіятэрапеўт.

Паліклініка мае грунтоўную лячэбную базу. Ёсць вялікае фізіятэрапеўтычнае аддзяленне з асноўнымі прыборамі электра- і светалячэння, інгаляторый, масаж, азакерыталячэнне. Некалькі відаў водалячэння: падводны душ-масаж, душ Шарко, цыркулярны душ, лекавыя ванны. З нядаўняга часу пачалі лячэнне выпраменьваннем лазера.

— *А ці можна сказаць, што аснашчэнне паліклінікі цалкам адпавядае сучаснаму ўзроўню аказання медыцынскай дапамогі?*

— У асноўным можна. Аднак, ёсць у нас і слабыя месцы. Адным з іх з'яўляецца недасканалая дыягнастычная база.

У нас ёсць клінічная і біяхімічная лабараторыі, рэнтгенкабінет, аднак няма сучаснага дыягнастычнага абсталявання. Для нармальнага абследавання пацыентаў і своечасовай дыягностыкі захворванняў трэба было б мець ультрагукавы скенар, эндаскоп, тэрмограф. У нас іх няма, таму мы вымушаны накіроўваць супрацоўнікаў Акадэміі на дыягностыку ў другія ўстановы, дзе такія паслугі праводзяцца на платнай аснове. Раней прэзідыум АНБ мог плаціць за гэта цэнтралізавана, але цяпер, калі фінансы не дазваляюць, гэтыя выдаткі давядзецца аплочваць ці то інстытутам, ці то хворым са сваёй кішэні.

Мы б з задавальненнем набылі хоць некаторыя з дыягнастычных прыбораў, але цэны на іх цяпер недасягальныя. Самы найтаннейшы апарат каштуе каля 20 тысяч долараў. Калі перавесці ў нашы «зайцы», то атрымаецца лічба з многімі нулямі. Такіх грошай сёння ў прэзідыума няма, і невядома, ці з'явяцца яны наогул.

— *Ці ведае пра вашы патрэбы кіраўніцтва АНБ?*

— Вядома ж. І трэба сказаць, у прэзідыуме АНБ не толькі ведаюць пра ўсе нашы праблемы, не толькі спачуваюць, але і заўсёды — па магчымасці — дапамагаюць. Але паліклініцы неабходна ўсе больш і больш сродкаў. Усё ж падаражала. І гэта вельмі дрэнна адбіваецца на лячэбным працэсе. Не стае сродкаў, напрыклад, на кісларод, вуглекіслату, валяр'яну, і таму зараз мы не маем магчымасці адпускаць пацыентам ванны. Падаражала вата, перавязачныя матэрыялы, а яны ж патрэбны літаральна ў кожным кабінеце, кожны дзень.

Яшчэ адна праблема: неймаверна уздаражала мыццё бялізны. Для нас гэта вельмі істотна, таму што, напрыклад, хірургу трэба мяняць халат кожны дзень. А прасціны, сурвэткі і г. д.?

Шмат грошай патрабуецца і на рамонт абсталявання. Мы маем стаматалагічнае абсталяванне дзесяцігадовай даўнасці. Зразумела, яно даўно патрабуе рамонту. Можна адрамантаваць машыны прадстаўнікамі той фірмы, якая іх пастаўляе. Гэта каштуе зараз шэсць з паловай мільёнаў, і мы ўжо адрамантавалі адно крэсла. Але што рабіць з астатнімі двума? На іх рамонт грошай ужо няма. Калі яны выйдуць са строю, а гэта здарыцца, магчыма, праз нядоўгі час, рамонт будзе каштаваць у тры, пяць разоў даражэй.

Такія прыклады, калі тут не хапае, там не стае, можна працягваць. Адна надзея на тое, што калі выжыве Акадэмія, выжыве і паліклініка. А калі не? Ведаеце, давайце пакуль не будзем аб гэтым гаварыць. Я паўтаруся: кіраўніцтва Акадэміі робіць усё магчымае, каб захаваць паліклініку ў сістэме АНБ.

— *Лідзія Рыгораўна, ведаю, што гэта вельмі балючае пытанне: што адбудзецца з паліклінікай заўтра? Але ж, напэўна, вы не маглі не задумвацца аб тым, што будзеце рабіць, калі АНБ раптам не зможа вас фінансаваць?*

— Што будзем рабіць? На гэта пытанне пакуль што не маю адказу. Вельмі сумна, вельмі журботна будзе, калі ўстанова, якая мае адукаваныя, высокакваліфікаваныя кадры, якая «начынена» апаратурай, будзе зачынена ці парасцягвана па другіх нейкіх установах.

— *Можа, выйсцем магло б стаць далучэнне да камерцыйнай медыцыны? Куды могуць прывесці пошукі ў галіне камерцыі?*

— Па маіх назіраннях, камерцыйная медыцына ў нашай краіне не выжывае. І, я думаю, для нас пераход на камерцыйную аснову не з'явіўся б выйсцем. Чаму? Па-першае, псіхалагічна чалавеку цяжка перастроіцца. Мне таксама, таму што я з таго пакалення, якое пачынала сваю працоўную дзейнасць на энтузіязме. Ну як я магу з хворага чалавека браць вялікія грошы? Насельніцтва ў нас зусім збяднела. На каго можна арыентавацца? Самыя багатыя камерсанты лечацца за мяжой. Камерсанты сярэдняга ўзроўню не лечацца зусім, ім няма калі, яны «робяць грошы». Дарэчы, я, як урач, ведаю, чым гэта скончыцца асабіста для кожнага з іх. Цяпер сярэдні прадпрымальнік мае ўзрост 35—40 гадоў. А дзесьці праз 5 гадоў пойдуць гіпертанічныя крызы, хваробы сасудаў і гэтак далей...

Спансіраваць медыцыну ніхто не хоча, гэта ж не прынясе значнага прыбытку. Таму, каб утрыманне аднаго ці некалькіх кабінетаў, дзе аказваюцца платныя медыцынскія паслугі, было рэнтабельным, у кошт лячэння адразу трэба закладваць працэнт з сумы падаткаў, што значна падымае ў цане медыцынскую паслугу. Ва ўсім свеце медыцыне з боку дзяржавы ёсць паслабленне, але не ў нас... Часам да мяне звяртаюцца камерсанты з прапановай укласці грошы ў медыцыну, але, калі пералічваеш варыянты, хуценька адмаўляюцца. Не будзе ж выгоды імгненнай, а гады чакаць хто хоча.. Такім чынам, прыватным асобам нявыгадна ўкладаць грошы ў здароўе людзей, а дзяржава рабіць гэтага зараз не можа.

— *Зноў мы ў нашай гутарцы з'ехалі на мінорны лад. Але ж, напэўна, ёсць у вас не толькі клопат, не толькі боль — ёсць і мары, і натхняючыя планы на будучыню?*

— Так, жыццё працягваецца і заўсёды трэба думаць пра будучае. Зараз мы маем вусную дамоўленасць з кіраўніцтвам Акадэміі аб тым, каб нам перадалі трэці паверх нашага будынка для стварэння там аддзялення аднаўленчага лячэння. Там змогуць комплексна паправіць сваё здароўе тыя супрацоўнікі, якія перанеслі цяжкія хваробы: пнеўманію, гіпертанічны крыз, разнастайныя траўмы і г. д.

— *Якое становішча з лекамі?*

— Зараз лекі — не дэфіцыт, як раней, аднак зноў паўстае праблема — дорага. Раней нам выдзяляліся сродкі для забеспячэння медыкаментамі дыспансерных хворых бясплатна. Але ж тыя часы прайшлі. Калі-некалі 1-ая клінічная бальніца дае нам частку гуманітарнай дапамогі, але яе вельмі мала, да таго ж гэтыя прэпараты ці са скончаным тэрмінам вартасці, ці ён вось-вось надыдзе.



Зараз мы цесна супрацоўнічаем з аптэкай № 32, што па праспекце Скарыны, 87. Два разы на месяц мы атрымліваем ад іх інфармацыю аб наяўнасці і кошту лекаў. Яны ж каштуюць вельмі і вельмі дорага і не дзіва зараз прэпарат, напрыклад, за 200 тысяч, а то і больш. Не ўсе, асабліва акадэмічныя супрацоўнікі, з адпаведнымі «акадэмічнымі» зарплатамі могуць гэта сабе дазволіць.



— *Што б вы хацелі сказаць на заканчэнне гутаркі нашым чытачам?*

— Хацелася б запрасіць усіх, каму неабходна, да нас. Вам акажуць дапамогу кваліфікаваныя спецыялісты. Калі трэба, мы выпісваем лісткі часовай непрацаздольнасці, праводзім шпіталізацыю, у нас вы можаце атрымаць тыя ж паслугі, што і ў гарадской водагразелячэбніцы, толькі бясплатна. І яшчэ што немалаважна: у нас амаль ніколі няма чаргі.

Словам, мы паклапоцімся аб вашым здароўі!

Гутарку вяла
Маргарыта ГОГАЛЕВА.

На здымках: паліклініка пачынаецца з рэгістратуры. Наведвальнікаў сустракаюць рэгістратар М. М. Пархімчык і медсястра Л. В. Бруская; медсястра Г. Н. Федарава пад час правядзення працэдуры лазератэрапіі; электрафарэз робіць пацыенту сястра фізіятэрапеўтычнага кабінету Н. Г. Кудзяркова.

Фота М. БУДЧАНІНА.

## ВАКАНСІІ

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасады загадчыка аддзела гісторыі культуры (доктара навук).

Тэрмін конкурсу — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Даведкі па тэлефонах: 39-55-89, 39-59-16.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля Шымановіч

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 20.07.94 г.
Зак. 1039
Тыраж 1000 экз.

Індэкс 64123
Пры перадруку просьба спасылацца на «Навіны АНБ»
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.

Аўтары апублікаваных у газеце матэрыялаў нясуць адказнасць за іх дакладнасць і гарантуюць адсутнасць звестак, якія складаюць дзяржаўную тайну.